Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 730.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Серада, 9 верасня 1998 г. | № 95 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Лукашэнка прапануе Ельцыну...

**«Прэзідэнт Беларусі ідзе ва-банк» — пад такім загалоўкам расійская газета «Известия» піша пра новую інтэграцыйную ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі.**

Як паведамляе газета, беларускі прэзідэнт накіраваў пісьмо Барысу Ельцыну з прапановаю правесці нечарговую сесію парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі і разгледзець шэраг законапраектаў, у прыватнасці "Аб адзіным грамадзянстве Саюза" і «Аб парламенце Саюза і прамых выбарах у яго».

На думку «Известий», фактычна гаворка ідзе пра аб'яднанне дзвюх дзяржаваў. Навошта гэта беларускаму прэзідэнту? Як адзначае газета, Аляксандр Лукашэнка ў выніку прыняцця такіх законаў атрымае легітымную магчымасць выйсці на расійскае палітычнае поле. *«Пра гэта ён даўно марыць»*, — зазначаюць «Известия».

Андрэй ПРАКАПОВІЧ

### Аблава на нелегалаў

*У Беларусі пачалася аперацыя па адлову нелегальных мігрантаў*



Аперацыя праводзіцца сіламі трох ведамстваў: памежнымі войскамі, камітэтам дзяржбяспекі і міліцыяй. Па словах супрацоўніка прэс-службы памежных войскаў Аляксандра Ярашэнкі, зараз ідзе *«рэалізацыя звестак, якія былі назапашаныя раней»*. Падпалкоўнік адмовіўся патлумачыць, якімі канкрэтна метадамі ідзе выяўленне і адлоў мігрантаў. Між тым, згодна з іншымі крыніцамі, перавага аддаецца праверкам дакументаў у пасажыраў цягнікоў, «зачысткам» на рынках і візітам на кватэры, якія выкарыстоўваюцца ў якасці перавалачных пунктаў для далейшай пераправы нелегалаў на Захад.

На інфармацыі прэс-службы памежных войскаў, ужо 3 верасня, у першы дзень аперацыі, у краіне было затрымана 528 нелегалаў з Азіі і Афрыкі. Пазней «ураджай» быў не такі багаты — прыкладна па 80 чалавек за суткі. Як правіла, на працягу трох дзён іх адпраўляюць з Беларусі. Пераважна ў Расію, адкуль яны і прыехалі.

Між тым у памежнікаў няма ўпэўненасці, што высланыя мігранты зноў не прыедуць у Беларусь, каб прадпрыняць адсюль новую спробу прарвацца ў Заходнюю Еўропу. Нездарма нават пра тэрмін сканчэння аперацыі «нелегал» прэс-служба памежнікаў не паведамляе. Відаць, сілавікі ўжо пагадзіліся з прымаўкай *«лавіць — не пералавіць»*.

Па розных ацэнках, цяпер у Беларусі знаходзіцца прыкладна 10 тысяч нелегалаў. У міліцыі, аднак, сцвярджаюць, што іх *«на парадак менш»*.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

### Ахвяра крызісу

*Нават прыбытковыя беларускія прадпрыемствы сёння вымушаныя спыняць вытворчасць*

Кіраўніцтва завода «Брэстгазаапарат», дзе вырабляюць даволі якасныя кухонныя пліты, прыняло рашэнне адправіць на тыдзень у вымушаны адпачынак увесь свой працоўны калектыў. Прычына простая: на прадпрыемстве, кантрольны пакет акцыяў якога належыць расійскаму канцэрну «Газпром», не ведаюць, па якіх цэнах прадаваць свае пліты ў Расію. Прадпрыемства таксама не атрымлівае грошы за раней пастаўленую прадукцыю. У гэтых умовах, каб пазбегнуць вялікіх стратаў, кіраўніцтва акцыянернага таварыства вырашыла часова спыніць вытворчасць.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

*Прагноз на заўтра*

## Што чакае «зайца»?

### Кошт долара ўжо дасягае 250 тысяч безнаяўных беларускіх рублёў

**Тым часам фірмы, якія гандлююць імпартам, прадаюць тавары па цэнах з розніцу 300—400 тысяч безнаяўных «зайцаў» за адзін долар.**

Усіх хвалюе: як будзе развівацца сітуацыя далей? Мы звярнуліся да спецыялістаў з просьбай спрагназаваць сітуацыю. Але і ў дзяржаўных, і ў недзяржаўных структурах нашыя субяседнікі толькі разводзілі рукамі: маўляў, сёння практычна немагчыма даць хоць які-небудзь прагноз. І ўсё ж...

На думку **Станіслава Багданкевіча**, цяперашні курс безнаяўнага беларускага рубля на міжбанкаўскім валютным рынку завышаны. Калі б Нацыянальны банк Беларусі спыніў друкарскі станок і адмовіўся ад заганнай практыкі выдаваць крэдыты стратным прадпрыемствам ды калгасам, то долар мог бы каштаваць прыкладна 150 тысяч беларускіх рублёў.

Але цяжка чакаць ад дзяржавы змены эканамічнай палітыкі. С.Багданкевіч таксама падкрэсліў, што расійскі крызіс пакуль сур'ёзна не паўплываў на становішча ў Беларусі. На ягоную думку, цяперашні абвал нашага рубля выкліканы найперш унутранымі прычынамі, а «расійскі ўдар» яшчэ чакае нас наперадзе.

Як мяркуе Станіслаў Багданкевіч, ад нашых «рэфарматараў» можна чакаць самых крайніх мераў на валютным рынку — нават увядзенне манаполіі на валютныя аперацыі і 100-працэнтнае «изъятие» валюты ў экспарцёраў. Можа здарыцца так, што курс, які ляціць на ўзровень 300-400-500 тысяч рублёў, будуць спрабаваць спыніць шляхам закрыцця валютнага рынку. Тады застанецца толькі «чорны» рынак. А калькі там будзе каштаваць долар — гаварыць вельмі цяжка.

Тым часам ужо цяпер у нас сітуацыя горшая, чым у Расіі. Калі ў «старэйшага брата» курс нацыянальнай валюты ўпаў у тры разы, то ў Беларусі — у шэсць. *«І чакаць спынення падзення беларускага рубля не прыходзіцца, хоць магчымасці для гэтага ёсць»,* — лічыць Багданкевіч.

Не чакае спынення курса беларускага рубля і прадстаўнік расійскага банка «Диалог-Оптим» **Андрэй Лісьеў**. Ён лічыць, што курс беларускага рубля ўжо не адкаціцца назад, як гэта звычайна адбывалася пасля рэзкага скачка. Андрэй Лісьеў мяркуе, што дынаміка курса беларускага рубля ў бліжэйшы час будзе залежаць у асноўным ад становішча з расійскай валютай, таму што 70 працэнтаў беларускага экспарту прыпадае на Расію.



На расійскім рынку цяпер паніка: усе купляюць долары, скідваючы расійскія і беларускія рублі. Стабілізацыі на расійскім рынку пакуль не прадбачыцца. Расійскія ўлады гавораць аб неабходнасці грашовай эмісіі, што яшчэ больш паслабіць пазіцыі расійскага, а разам з ім і беларускага рубля.

Алесь САДОЎСКІ

## Газет стане менш

**Як паведаміла агенцтва БелаПАН, большасць штодзённых дзяржаўных газет у бліжэйшы час скароціць перыядычнасць выхаду да двух-трох разоў на тыдзень.**

Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. Прычына адна — не хапае газетнай паперы. Таварыш Замяталін паскардзіўся на расійскі эканамічны крызіс, з-за якога цэны на паперу істотна ўзняліся. Больш таго, па словах У.Замяталіна, расійскія прадпрыемствы адмаўляюцца выконваць нават падпісаныя раней дамовы на пастаўку паперы.

Карэспандэнт НАВІНАЎ звязаўся з асноўнымі дзяржаўнымі і недзяржаўнымі выданнямі Беларусі, каб даведацца, як на іх адбіўся недахоп газетнай паперы.

*«Не дачакаецеся!»* — фраза з габрэйскага анекдота адказалі ў «Советской Белоруссии». — *«Газета будзе выходзіць, як і раней»*. У «Народнай газеце» пакуль што пра скарачэнне перыядычнасці выхаду вядома толькі *«на ўзроўні чутак»*. У «Рэспубліцы» ўпэўненыя, што паперы ім хопіць. Першай пацярпела ад расійскага крызісу газета «Звязда». З гэтага тыдня яна выходзіць тры разы на тыдзень — у аўторак, чацвер і суботу.

Такім чынам атрымліваецца, што ці то ў большасці дзяржаўных газет невядома адкуль узялася «заначка» газетнай паперы, на якой яны збіраюцца друкавацца з ранейшай перыядычнасцю — і тады цікава, чаму пра тую «заначку» не ведае У.Замяталін. Ці якраз віцэ-прэм'ер больш дасведчаны ў фінансавых справах газет, ён ведае, калькі дзяржава можа патраціць грошай на паперу для сваіх выданняў — і тады незразумела, на чым базуецца аптымізм «Советской Белоруссии», «Народнай газеты» і «Рэспублікі».

У рэдакцыі «Народнай Волі» сказалі, што бліжэйшыя два тыдні газета будзе выходзіць, як і звычайна — дапамогуць старыя запасы паперы. А што будзе праз два тыдні — ніхто не ведае. «Белорусская деловая газета» не плануе змяняць перыядычнасць свайго выхаду, але ўжо скараціла колькасць газетных палосаў з 24 да 16-ці. Што ж датычыць нашай газеты, то пакуль нам удаецца вырашаць «папяровую праблему».

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

*Урад*

***Заўтра прэм'ер-міністр С.Лінг будзе заняты праблемамі продажу алкагольнай і тытунёвай прадукцыі. Па гэтых пытаннях ён даложыць прэзідэнту А.Лукашэнку. А 12 верасня, як чакаецца, прэм'ер-міністр зоймецца менш празаічнымі справамі — будзе ўдзельнічаць у мерапрыемствах, прысвечаных святкаванню 200-годдзя Адама Міцкевіча ў Навагрудку.***

*Пікеты*

***Аб'яднаная грамадзянская партыя праводзіць на гэтым тыдні ў Мінску шэраг пікетаў — супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі і ў падтрымку грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97». Сёння пікет пачнецца ў 14:00 на плошчы Свабоды; 10 верасня — у 16:00 каля Чэрвеньскага рынку; 11 верасня — у 16:00 каля дома № 5 на вул. Магілёўскай. На 12 верасня запланаваныя два пікеты — з 11:00 да 13:00 і з 15:00 да 17:00 на плошчы Прытыцкага.***

*Войска*

***7 верасня пад Баранавічамі пачаліся камандна-штабныя вучэнні з 28-м армейскім корпусам. На Абуз-Лясноўскі палігон прыбыла вялікая група генералаў і афіцэраў, 90 адзінак бранятанкавай і 500 адзінак аўтамабільнай тэхнікі. Камандуе вучэннямі сам міністр — генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў.***

*Моладзь*

***З 16 верасня па 15 кастрычніка ў піянерскім лагеры «Зубраня», што на возеры Нарач, пройдзе першы Рэспубліканскі злёт юных пажарных, у якім возьмуць удзел вучні 6—9 класаў. На Нарач запросяць пераможцаў абласных і мінскага гарадскога злётаў.***

*Украіна*

***Міжнародны валютны фонд прыняў рашэнне выдзеліць Украіне крэдыт у памеры 2,2 мільярда долараў. Тым часам Кіеў атрымаў і непрыемную навіну: «Газпром» з 4 верасня скараціў на 30% пастаўкі прыроднага газу на Украіну. Скарачэнне падачы газу ўведзенае да поўнага пагашэння Украінай запазычанасці (640 млн. долараў) за раней пастаўлены газ.***

# Рэкамендацыі ад Маёра

*Генеральны дырэктар ЮНЕСКА прапануе выкарыстоўваць «фактар нечаканасці»*

Учора ў міністэрстве замежных справаў адбылася прэс-канферэнцыя генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра Сарачоса. Гэта быў апошні пункт праграмы ягонага 2-дзённага візіту ў Беларусі. Ф.Маёр заклікаў улады захоўваць свабоду прэсы і выказвання думак — як аснову ўмацавання міру і ажыццяўлення дэмакратычных працэсаў. Пра гэтыя «вечныя каштоўнасці» генеральны дырэктар ЮНЭСКА нагадаў і падчас сустрэчы з прэзідэнтам Лукашэнкам, а прэсе параіў *«дапамагчы людзям знайсці новую будучыню»*. На думку Ф.Маёра, *палітыкам неабходна выкарыстоўваць «фактар нечаканасці» і «шукаць нетрадыцыйныя рашэнні праблемных сітуацыяў»*. У якасці пазітыўных прыкладаў такой тактыкі ён нагадаў пра падзеі ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, Мазамбіку, Сальвадоры, Гватэмале і Намібіі.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Іван Антановіч расцаніў візіт Ф.Маёра ў Беларусь як «бліскучы перфоманс, у якім генеральны дырэктар ЮНЕСКА выкарыстаў усе свае іпастасі».

Пры гэтым міністр меў на ўвазе кнігу вершаў «Быць чалавекам», якую міністэрства замежных справаў аператыўна выдала спецыяльна да візіту высокага госця тыражом у 500 асобнікаў. Прадмову да гэтай кнігі напісаў сам Іван Антановіч. Ён у вялікім захапленні ад перакладзеных на беларускую мову вершаў Ф.Маёра. Міністр звярнае ўвагу на вызначаную Маёрам ідэю «культуры міру, якая мусіць супрацьстаяць ужо замацаванай культуры вайны, агрэсіі, гвалтоўнасці».

Сапраўды, у гэтым сэнсе кніга Ф.Маёра магла б паўплываць на сітуацыю ў Беларусі і на знешнепалітычны курс краіны. Толькі ці прачытаюць яе ўсе, каму трэба?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# «Савецкае шампанскае» дало газу

**Мінскі завод шампанскіх вінаў спыніў вытворчасць «Савецкага шампанскага».**

Яшчэ ў жніўні завод выпускаў штодня 46 тысяч бутэлек «Савецкага», цяпер канвеер перададзены пад шампанскае «Москва Златоглавая».

Як патлумачыў дырэктар прадпрыемства Тадэвуш Булдык, выпускаць «Савецкае» заводу нявыгадна. *«Каб яно стала рэнтабельным, трэба падняць цану са 100 тысяч да 140 тысяч рублёў, а зрабіць нам гэта не дазваляюць»*, — сказаў Т.Булдык.

Па словах дырэктара, з-за крызісу ў Расіі завод нясе велізарныя страты. *«Калі пасля расійскага ўпаў і беларускі рубель, гэта канчаткова пахавала нашыя надзеі на пагашэнне крэдыту ў 3 мільёны доляраў, што быў узяты ў 1997 годзе ў Белзнешэканомбанку»*, — тлумачыць спадар Булдык. Наяўнасць адразу некалькіх курсаў валюты, якія адрозніваюцца ўжо амаль у 10 разоў, дырэктар назваў «бязглуздзіцай». *«Сёння мы не можам купіць валюту, а значыць, і сыравіну, каб разліваць шампанскае ў будучым»*, — сцвярджае Тадэвуш Булдык. Ён не выключае, што ўжо праз адзін—два месяцы прадпрыемства можа зусім спыніць сваю працу. *«Калі наш рубель будзе і надалей падаць, мы ніколі не падымемся»*, — лічыць дырэктар.



*«Савецкае шампанскае» цяпер рэдкасць.*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Новыя падаткі выклікалі страйк

**На мінулым тыдні тры дні не працавалі прыватныя гандляры Полацкага і Наваполацкага рэчавых рынкаў. Яны абвясцілі страйк.**

Прычына ў тым, што Віцебская абласная падатковая інспекцыя па-свойму патлумачыла прэзідэнцкі ўказ аб падаткаабкладанні прыватных прадпрымальнікаў і вырашыла спаганяць з чаўнакоў дадатковы штомесячны падатак. Грошы не такія і вялікія (ад 250 да 800 тыс. рублёў), але прадпрымальнікі абурыліся. *«Калі цяпер саступіць і заплаціць 250 тысяч, то заўтра давядзецца выкладваць 25 мільёнаў»*, — кажуць яны. У знак пратэсту гандляры аб'явілі забастоўку і пачалі патрабаваць скасавання незаконнага, на іх думку, падатку.

Праўда, праз тры дні гандляры ўсё ж распачалі гандаль, бо кожны з іх плаціць фіксаваны падатак незалежна ад колькасці дзён, праведзеных на кірмашы. Тым не менш, па словах лідэраў мясцовага незалежнага прафсаюза прадпрымальнікаў, яны не збіраюцца саступаць і будуць дамагацца адмены падатку іншымі метадамі. І якімі ж?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Вайсковых камандзіраў адправяць у шпіталь

**У беларускім войску праходзіць паглыбленае медычнае абследаванне ваеннаслужачых. У адпаведнасці з загадам Галоўнага штаба, яно павінна завяршыцца да 15 снежня.**

Дакумент прадугледжвае, што кіраўнічы склад міністэрства абароны, камандуючыя войскамі, камандзіры армейскіх карпусоў і іх намеснікі павінны будуць на працягу 3—5 дзён прайсці стацыянарнае медычнае абследаванне ў Галоўным ваенным клінічным шпіталі, а камандзіры злучэнняў і вайсковых часцей лягуць для абследавання ў гарнізонныя шпіталі.

*БелаПАН*

# Чалавек XX стагоддзя з Брэста

**Біяграфічны цэнтр Кембрыджскага універсітэта прысвоіў мастаку з Брэста Мікалаю Кузьмічу ганаровае званне «Чалавек стагоддзя».**

Такім чынам адзначаныя старанні мастака па аднаўленні Крыжа Еўфрасінні Полацкай і вяртанне народу хрысціянскай святыні. Цяпер Мікалай Кузьміч працуе над футаралам для Крыжа, ён плануе скончыць работу да 2000 года — юбілейнага года хрысціянства.

*БелаПАН*

*Конкурс*

# Прыдумай свой аўтамабіль

**Да 15 кастрычніка працягваецца прыём творчых прац для ўдзелу ў конкурсе аўтадызайну «Машына часу '98».**

Канкурсанты будуць спаборнічаць у дзвюх намінацыях: «Аўтамабіль у горадзе» і «Грузавік будучыні». Пры гэтым ідэя распрацоўкі павінна быць абсалютна свежая, выявы транспартных сродкаў, якія ўжо існуюць, да ўдзелу ў конкурсе не дапускаюцца. Нядаўна аргкамітэт конкурсу пры дапамозе спонсара — замежнага прадпрыемства «Аўтахаўс Атлант-М» — правёў спецыяльны семінар для будучых удзельнікаў конкурсу, а тэлеграграма «Аўтапарк» у бліжэйшы час пакажа на канале БТ серыю перадачаў з аглядам асноўных накірункаў аўтамабільнага дызайну. Больш падрабязную інфармацыю могуць даць арганізатары — газеты «Автобизнес» і «Переходный возраст».

*БелаПАН*

# Спіртавая кантрабанда

*Небяспечны бізнес вабіць і беларусаў, і палякаў*

**Спіртавыя кантрабандныя рэкі ў выніку напружанай працы мытнікаў і праваахоўных органаў часам ператвараюцца ў ручаі, але ніколі не спыняюцца.**

Самым вялікім «уловам» для гродзенскіх мытнікаў у свой час стаў славуты эшалон са спіртам скандальнай фірмы «Торгэкспо», які павінен быў ехаць у Расію. Улады перадалі сканфіскаваны тавар мясцоваму заводзіку, і гродзенцы доўга яшчэ пілі гарэлку з таго спірту, якая мела не вельмі добрую славу.

Спірт трапляецца мытнікам і сёння, толькі ідзе ён цяпер пераважна з усходу на захад, у Польшчу. Адзін паляк прыстасаваў для яго перавозкі газавы балон, але ягоныя хітрыкі выкрылі на беларуска-літоўскай мяжы. Жыхару Бабруйска давялося развітацца са сваім мерседэсам, у якім зрабілі таемныя схованы на 170 літраў спірту. Кантрабандыста спынілі ў Брузгах, на беларуска-польскай мяжы. Машыну сканфіскаваў суд.

Не трэба быць мытнікам, каб пераканацца, што спіртавы шлях праз мяжу не перапыняецца. Досыць сесці ў прыгарадны цягнічок, які курсіруе паміж Гродна і польскай памежнай станцыяй Кузніца. Пасажыры хаваюць спірт у пластыкавых бутлях дзе толькі можна — вагоны ім проста нашпігаваныя. Некаторыя жанчыны пераліваюць яго ў цэлафанавыя пакеты і абвязваюць вакол цела, становячыся да ненатуральнасці мажнымі.

А пасажыры любяць пераказваць адзін аднаму дзве жахлівыя гісторыі на гэтую тэму. Адна жанчына, правозячы спірт праз мяжу, гэтак перахвалявалася, што на пероне ў Кузніцы памерла ад сардэчнага прыступу. Другая, абвязаная пакетамі са спіртам, курыла і незнарок падпаліла сама сябе.

Возяць ад нас спірт і палякі. Я сам бачыў, як адзін з іх перад уездам у Кузніцу выкідаў праз акно пластыкавыя бутэлькі, каб потым пазбірацца іх. Другога чакаў на станцыі супольнік з вазком, куды з цягніка пасля перагружалі нешта такое, што булькала. І дзе толькі яго хавалі ў вагоне?

Але ж раз возяць — значыць выгадна...

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

# «Зэкі» на ракетнай базе

**Прыватызацыя ў Беларусі, як вядома, мае адметнасць: улады распрадаюць толькі тыя аб'екты, якія кепска альбо зусім не выкарыстоўваюцца.**

У Гродзенскай вобласці былі вызначаныя пяць такіх аб'ектаў. Сярод іх, апроч свінарніка ў Смаргонскім раёне, усе астатнія — былыя вайсковыя, прычым прадаваць будзе і цэлы гарадок. Ваенныя гарадкі якраз выкарыстоўваюцца найгорш. Каб з імі нешта зрабіць, патрэбны немалыя грошы. Найбольш эфектыўна, мабыць, прыстасавалі былую расійскую ракетную базу ў Гезгалах Дзятлаўскага раёна: там стварылі калонію.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

# В торговле оружием друзей не бывает

*Ссора между «Белтехэкспортом» и «Росвооружением»*

Во времена СССР Беларусь именовалась сборочным цехом советской оборонки, а после распада империи наличие в республике предприятий ВПК позволили Минску расширить экспорт и зарабатывать валюту на торговле оружием. До последнего времени белорусские фирмы такого профиля стремились поддерживать тесный контакт со своими российскими партнерами. И в первую очередь с «Росвооружением».

Особые отношения с российским концерном обуславливались еще и тем, что Россия часто переуступала белорусам ряд контрактов по реализации некоторых типов бронетанковой и авиационной техники, артиллерийских систем и вооружения ПВО, что объяснялось нежеланием «Росвооружения» «светиться» сделками с одиозными режимами. Подобная практика позволяла Беларуси занимать где-то девятое место в мировом рейтинге экспортеров вооружения.

Но в последнее время в связи с нараставшим экономическим кризисом отношения между партнерами явно испортились. Серьезный скандал возник из-за поставок в Перу систем залпового огня «Смерч».

Две делегации по экспорту оружия — белорусская и российская — пересеклись в латиноамериканской стране. Как выяснилось, белорусы пытались перейти дорогу «Росвооружению», не спросив положенного в этом случае разрешения российского минобороны о возможной утечке секретных технологий, да еще и пытаясь установить демпинговые цены на эту продукцию.

Ходят слухи, что раздосадованные функционеры «Росвооружения» в самое ближайшее время намерены пойти на кардинальный пересмотр принципов сотрудничества с Минском. Вроде бы готовится постановление, перечисляющее компании СНГ, с которыми регулируются подобного рода отношения, и среди них — «Белтехэкспорт» отсутствует.

Однако, белорусская фирма не сдается и пытается вести дела самостоятельно. В чем она и преуспевает. Не так давно было заключено соглашение со Швецией о поставках прицелов ночного видения для гранатометов, а также подписан контракт с Алжиром на поставку 36 истребителей МИГ–29.

*По материалам газеты «Сегодня» (Москва)*

# Литва готова вооружаться

## *А заодно и подкормить российских солдат*

Президент Литвы Валдас Адамкус сообщил, что руководство страны рассмотрит возможность увеличения расходов на оборону в случае крайнего обострения обстановки в России. Одновременно спикер Сейма Литовской Республики Витаутас Ландсбергис подверг западные страны резкой критике за то, что они тянут с ответом насчет приема Литвы в *NATO*.

А в минувший понедельник Ландсбергис заявил, что Литва могла бы *«по-дружески предоставить гуманитарную помощь частям российской армии, находящимся в Калининграде»*. Ландсбергис считает, что огромную опасность для стран Балтии представляет ее *«голодная, не управляемая никаким центром армия»*. Его обращение к мировой общественности с предложением обсудить возможную гуманитарную помощь дислоцированной в Калининграде армии было вызвано заявлением руководства Балтийского военного флота России о том, что на складах осталось продовольствия всего на 40 дней.

*ELTA—ИМА-пресс*



*На снимке: В.Ландсбергис (в центре), премьер-министр Литвы Г.Вагнорюс (справа) и министр обороны Ч.Станкявичус во время торжественной церемонии, посвященной 5-й годовщине «военной независимости»: последний российский солдат покинул территорию Литвы 1 сентября 1993 г.*

# «Жигули» разлетаются

## *Автомобили никогда не были так дешевы в России, как сейчас*

Финансовый кризис сделал российские автомобили доступными даже для низкооплачиваемых работников бюджетной сферы.

«Жигули» и «Москвич» можно купить соответственно за 3,9 тыс. и 2 тыс. долларов. Впрочем, автомобильная вседозволенность продлится не больше недели — уже сейчас старые запасы дилеров на исходе, а заводы всерьез задумались о повышении отпускной цены.

# Грузинская лихорадка

## *За последние дни в магазинах Грузии пропали сахар, спички и соль*

В Грузии в течение нескольких дней наблюдалась паника, вызванная сильным падением курса национальной валюты: доллар, за который еще недавно давали 1,35 лари, поднялся до отметки 1,8. Усилиями Национального банка, пообещавшего вынести на продажу большое количество американской валюты, панику удалось остановить. Однако из магазинов все же исчезли сахар, спички, макароны и другие товары первой необходимости. Цена на продукты питания на рынках подскочили на 30—40%.

Грузинские эксперты склонны объяснять происшедшее игрой финансовых спекулянтов и никак не связывают это с кризисом в России. Власти страны создали чрезвычайную финансовую комиссию под руководством госминистра (премьера) Важи Лордкипанидзе, которой поручено ежедневно отслеживать ситуацию на финансовых рынках РГ.

*ИМА-пресс*

# Время бабушек и молодых мам

**По данным ООН, в населении нашей планеты преобладают две возрастные группы: те, кому пришло время рожать детей, и те, кому уже за 65.**

Данная тенденция ставит под сомнение способность человечества обеспечивать должный уровень образования и здравоохранения для молодежи, а также поддержку пожилых людей. Как говорится в ежегодном докладе «Народонаселение мира», в настоящее время глобальный прирост народонаселения несколько замедляется — прежде всего благодаря осуществлению программ семейного планирования. Однако еще в течение 10 лет мировое население будет продолжать возрастать на 800 миллионов человек в год.

К середине 1999 года на Земле будет жить 6 миллиардов человек — в два раза больше, чем в 1960 году. В 2050 году нас будет никак не меньше 9,4 миллиарда человек.

В течение последующих десятилетий будет снижаться как рождаемость, так и смертность. В результате во всех странах население постареет, причем вследствие уменьшения размеров семьи не все родители смогут получить помощь в старости со стороны своих детей.

# Иерусалим ломать не будут

## *Евреи и арабы спорят о другом*

Министерство туризма Израиля полагает, что в 2000 году Святую землю посетят 4,5 млн. иностранных туристов — вдвое больше, чем обычно. И почти все они захотят пройти древними узкими улочками Иерусалима по маршруту, который до некоторой степени повторяет Крестный путь Иисуса Христа на Голгофу.

Сделать это будет непросто — муниципалитет Иерусалима не предполагает расширять улицы Старого города. Но еще большие проблемы ожидаются с размещением туристов, хотя к нынешним восьми тысячам гостиничных номеров в городе будет добавлено еще две тысячи. *«Но эта проблема решаема,* — говорит Шабтай Шай, министр туризма Израиля. — *Значительная часть туристов готова разместиться за пределами Иерусалима в близлежащих городках и в кемпингах»*. На цели расширения туристской инфраструктуры израильское правительство уже израсходовало 300 млн. долларов, а общая сумма достигнет миллиарда долларов.

Однако главная проблема сейчас — отнюдь не размещение туристов. До сих пор не решено, где должны быть проведены основные торжественные мероприятия — в Вифлееме, где родился Иисус, или в Иерусалиме, где его приговорили к смерти. Для христиан оба места свята. Но этот вопрос для мусульман и иудеев носит чисто политический характер, поскольку Вифлеем находится на территории Палестинской автономии, а Иерусалим — де-факто под контролем правительства Государства Израиль.

**Александр ИВАНОВ**

# Россия глазами русских

## *Предприниматели уверены, что страну ждет товарный дефицит и новая волна эмиграции*

Через две недели в стране начнется голод и революция, — с мрачной уверенностью сообщил корреспондентам московского журнала «Эксперт» крупный импортер товаров широкого потребления, успешно работавший на российском рынке уже несколько лет. Он не одинок в своем мнении. Владельцы торговых компаний спешно переводят оставшиеся деньги за границу и изучают цены на недвижимость в Европе. Персонал уволен или отправлен в бессрочные отпуска, целые рынки отправляются на каникулы. Те, кто еще пытается хоть как-то работать, продают последние складские остатки только за валюту.

Оптового рынка в России уже нет вообще, нет и импортных поступлений. Границу пересекают лишь те грузы, которые уже невозможно было остановить. Через таможню проходят лишь считанные проценты импорта по сравнению с докризисным уровнем. Особенно пострадали те, кто продавал продукцию, полученную по товарным кредитам западных партнеров. Они вынуждены возвращать доллары по выросшему курсу, и крупная компания может потерять до миллиона долларов в день.

Из-за паралича банковской системы резко вырос объем наличных операций. В аэропортах и на вокзалах милиция и бандиты ловят людей с чемоданами денег, которые везут для оплаты товара.

### Банки тонут – компьютеры плывут

Одними из первых объявили каникулы крупные рекламные агентства. По мнению экспертов, еще неделя — и до конца года о российском рекламном рынке можно забыть.

Потиравшие руки в первую волну кризиса (когда люди бросились вкладывать деньги в компьютеры) руководители компьютерных компаний сейчас готовы плакать. Компании ликвидируются. Ажиотажный спрос на ПК за два-три дня сменился глубокой стагнацией. По мнению гендиректора компании *R&K*, Н.Можина, российский рынок персональных компьютеров сократится в десять раз и вернется на уровень начала девяностых годов. Об импорте настоящих фирменных (то есть качественных и дорогих) компьютеров не стоит и вспоминать: тонущие банки, страховые компании и другие разорившиеся структуры наводнят рынок подержанными, но все же хорошими устройствами по бросовым ценам.

Вслед за компьютерщиками-продавцами закрываются компании — разработчики программного обеспечения. По мнению менеджеров фирмы *Cognitive Technologies*, половина из них так и не откроется. Те же, кто приступит к работе, будут обслуживать корпорации типа «Газпрома» или переориентируются на экспортные контракты, благо отечественные программисты довольно высоко котируются на Западе.

Не намного лучше развиваются события на рынке бытовой электроники. Несмотря на высокие цены, покупателей пока еще много. Однако, по оценкам экспертов, уже в ближайшее время спрос на электронику сократится минимум в три раза.

Практически прекратилась и торговля всеми автомобилями-иномарками, в том числе и собранными в России. В дирекции «Красного Аксая», на котором ведется сборка *Daewoo*, и «Автотора», где делают *Kia*, заявили, что не отгружают продукцию больше недели и наблюдают за развитием событий. Между тем их долю рынка стремительно отвоевывает продукция АвтоВАЗа. Один из менеджеров тольяттинского автозавода с гордостью поведал, что его предприятие опять работает в две смены, активно выплачивает долги в бюджет.

### Бензин дорожает, квартиры дешевеют

Российский топливный рынок переполнен слухами о том, что к середине сентября на треть повысятся цены на нефть и бензин. Как сообщил нам вице-президент Московской ассоциации владельцев автозаправочных станций С.Борисов, принято решение ограничить строительство новых АЗС в Москве: ведь спрос будет падать.

Плохи дела и у агентов по недвижимости. За последние три недели в Москве не было заключено ни одного(!) договора аренды коммерческой недвижимости. Резко сократился спрос на загородные дома, земельные участки да и на квартиры. По мнению риэлтеров, в ближайшее время резко увеличится предложение офисной недвижимости. Зато менеджер одной высококлассной московской гостиницы на вопрос «Как дела?» ответил: *«Сегодня заполняемость отеля почти сто процентов и в сентябре падать не будет – иностранцы едут закрывать свои офисы»*.

### Кушать хочется...

Участники продуктовых рынков говорят о реальном приближении продовольственного дефицита. 70% продуктов питания в России — это импорт. Причем речь идет не только о торговле, но и о производстве из импортного сырья.

Пока все держатся на старых запасах, но они уже на исходе. Если ситуация на валютном рынке не нормализуется, если не заработает банковская система, то итогом станут пустые прилавки магазинов, очереди за товарами первой необходимости и введение карточек.

### Опять все сначала

Кризис — горячая пора для теневиков. Фирмы, занимающиеся обналичкой и нелегальным переводом валюты за границу, работают засучив рукава. *«Теперь уже все поняли, что нужно срочно выводить оставшиеся «бабки» за рубеж, а вскоре и самим за ними отправляться. Я вот тоже еще неделю-две работаю и уматываю, семью уже отправил»*, — поделился знакомый директор одной из таких компаний.

В том, что будет новая волна эмиграции, абсолютно уверен бизнесмен Дмитрий Белоглазов, руководитель крупной компании «Офис-премьер»: *«Я хочу работать на родине, но когда голодная толпа с криками «буржуи проклятые» начнет бить стекла иномарок, мне ничего не останется, как согласиться на одно из предложений западных партнеров. И многие мои знакомые поступят так же»*.

Схлопнувшиеся рынки некому будет восстанавливать. Пресловутый средний бизнес, который рос не благодаря, а вопреки усилиям государства и олигархов, на этот раз настроен решительно. Политики, реальным и честным бизнесом никогда не занимавшиеся, не в состоянии это понять. Не понимают они и того, что нормально функционирующий рынок создается годами совсем нелегкого труда, а разрушить все можно за считанные дни.

Впрочем, пенять на московскую элиту уже поздно — маховик хозяйственной жизни остановлен, необратимые изменения в структуре рынков уже начались. Скоро придется все начинать сначала.

*© Эксперт*



*Вот так кризис и выглядит — выходной день, но совершенно пусто в уличных кафе. А ведь несколько недель назад даже в рабочие дни все было по-другому...*

# Секс-турызм

*Усё больш еўрапейцаў выязджаюць у «пікантныя падарожжы»*

## Дзеля чаго палякі ездзяць у Беларусь?

Яшчэ некалькі гадоў таму адказ на гэтае пытанне быў абсалютна відавочны — гандляваць. Сюды прывозіліся розныя панчохі—кашулі—світэры, а з Беларусі за заходнюю мяжу ехалі тэлевізары, прасы, яйкі і г.д. Сёння такія паездкі страцілі сэнс: абсалютная большасць тавараў у Польшчы вышэйшай якасці і таннейшыя, чым у нас.

Наступная хваля гасцей з-за Буга — гэта былі бізнесмены і розныя спецыялісты ў вытворчасці. Напачатку 90-х гадоў палякі актыўна інвеставалі ў беларускую эканоміку, і па колькасці сумесных прадпрыемстваў нашмат апярэджвалі ўсіх астатніх. Больш за іншых адчынілі польскія фірмы і сваіх прадстаўніцтваў у Беларусі.

Сёння для палякаў Беларусь апынулася ў адным спісе з Тайландам, Мексікай, Філіпінамі, Кеніяй... Дзіўнае суседства, ці не праўда? Але гэта так.

## Пікантнае падарожжа

Секс-турызм — даўно вядомая і добра развітая індустрыя ў свеце. За апошнія гады яна яшчэ больш пашырылася. Згаданыя вышэй Тайланд, Філіпіны, а таксама Шры Ланка па-ранейшаму трымаюць рэкорды па колькасці секс-турыстаў з еўрапейскіх краінаў. Аднак кліент мяняецца: да традыцыйных аматараў пікантных падарожжаў — шведаў, немцаў і аўстрыякаў — далучаюцца нарвегі, італьянцы, датчане, а з нядаўняга часу таксама венгры, чэхі і палякі. Турыстычныя агенцтвы арганізуюць туры спецыяльна для гэтай групы кліентаў, ведаючы, што яны ніколі не зацікавяцца наведваннем музеяў або агляданнем помнікаў гісторыі.

*— Секстурыстычныя маршруты — гэта перш за ўсё Паўднёва-Усходняя Азія. Нядаўна сталі актыўна распрацоўвацца і афрыканскія напрамкі — Кенія і Танзанія,* — расказвае Эдвард Пырэк, менеджэр аднаго з варшаўскіх турыстычных агенцтваў. *— Самая танная краіна ў гэтым сэнсе — Індыя, дзе з дзяўчынай можна старгавацца нават на адзін долар. У Тайландзе ноч з вулічнай прастытуткай будзе каштаваць у сярэднім 7 долараў, а за 50 можна наняць жанчыну на цэлы тыдзень.*

## Праз камп'ютэр

Любую інфармацыю, датычную секс-турызму, можна знайсці на старонках глабальнай сеткі Інтэрнэт. Прабраўшыся праз рэкламна-кідкія загалоўкі кшталту «Гарачая эратычная Куба», «Таіці ў стылі топлес», «Шалёны уік-энд на Ямайцы», «Далікатны Тайланд» і да т.п., можна даведацца практычна ўсё. Турыстычныя агенцтвы, якія прафесійна працуюць на рынку секс-турызму, прапаноўваюць вельмі шырокі спектр паслугаў — з вельмі рознымі цэнамі.

Напрыклад, экзатычнае падарожжа з агенцтвам *Viking-S* з Гамбурга будзе каштаваць ажно 3 тысячы долараў за 3 дні, затое ў праграме — круіз па Карыбскіх астравах на эксклюзіўнай яхце, увесь экіпаж якой (у тым ліку і капітан) складаецца з маладых прыгожых дзяўчат ва ўзросце 18—26 гадоў...

Ёсць агенцтвы, якія працуюць для жанчын. У прыватнасці, нямецкая фірма *Lady&Frau* паведамляе, што секс-падарожжа ў Кенію «абыдзецца ня дорага»: у сервісным пакеце прапануецца мужчына, якому не трэба плаціць грашыма — толькі «забяспечваць жыццёвыя патрэбы», г.зн. карміць, паіць і купляць цыгарэты.

## Не афішуючы

Адпачынак такога тыпу ўсё часцей арганізуюць для сябе і нашыя суседзі палякі. Аднак у Польшчы пакуль няма спецыялізаваных турагенцтваў, якія займаліся б толькі секс-падарожжамі. Перш за ўсё таму, што людзі саромеюцца напрамую выказаць свае жаданні.

*— Ні разу яшчэ кліент не сказаў абсалютна адкрыта пра мэту свайго падарожжа,* — гаворыць Гражына Мікалаеўская, менеджэр найбуйнейшай у Польшчы турыстычнай фірмы *Orbis*. *— Але калі прыходзіць адзінокі мужчына, купляе тур у Тайланд і просіць, каб там не было ніякіх экскурсіяў, — усё ясна. Мы аўтаматычна ўключаем яму сервісны пакет «S». Гэта значыць, што ў гатэлі яго ўжо будуць чакаць адпаведныя паслугі.*

*— Ні ў адным каталогу вы не знойдзеце інфармацыі пра секстурызм,* — зазначае прэзідэнт Польскай турыстычнай лігі Ўладзімеж Сукеннік, *— гэта не дазволена законам. Але кліенты часта пытаюцца пра «дадатковыя цікавосткі і паслугі» — і ўсе ведаюць, пра што гаворка.*

## Да блізкіх суседзяў

І ўсё ж Польшча яшчэ не настолькі багатая краіна, каб кожны паляк мог сабе дазволіць экзатычную вандроўку ў Тайланд або Бразілію. Таму значнай папулярнасцю карыстаюцца ў іх выезды за ўсходнюю мяжу. Нягледзячы на тое, што ў постсавецкіх краінах няма афіцыйных публічных дамоў і легальнай секс-індустрыі ў прынцыпе, адшукаць эратычныя прыгоды тут няцяжка.

Самыя дарагія прастытуткі — у Маскве і Санкт-Пецярбургу, ненашмат таннейшыя ў Мінску і Львове. Але **мінчанкі**, паводле словаў кіраўніка агенцтва, што займаецца арганізацыяй секс-тураў з Польшчы ў Беларусь і на Украіну, маюць рэпутацыю ***«дзяўчат высокай кваліфікацыі, якія прафесійна выканаюць усе жаданні кліента»***. Тыя палякі, якія маюць яшчэ менш грошай і няшмат часу, найчасцей выбіраюць сабе для секс-падарожжа Гродна, Каўнас або Вільню.




## Хваробы любові

Ва ўсіх усходніх ваяводствах Польшчы лекары адзначаюць выразны рост венерычных захворванняў. Некаторыя звязваюць гэта з актыўнымі секс-падарожжамі палякаў за ўсходнюю мяжу. Аднак гэта звязанае перш за ўсё з неарганізаваным «турызмам». Па сведчаннях турагентаў і іх кліентаў, прафесійныя прастытуткі ва ўсім свеце, у тым ліку і за ўсходняй мяжой Польшчы становяцца больш і больш адукаванымі ў плане гігіены. Калі раней многія з іх не ўжывалі прэзерватываў, «каб не адпалохаць кліента», то цяпер сітуацыя кардынальна змянілася.

Усё менш палякаў выбіраецца ў Расію, якая лічыцца вельмі небяспечным рэгіёнам. Паводле ацэнак міжнародных экспертаў, колькасць непаўналетніх прастытутак, заражаных вірусам СНІДу, у Расіі дасягае 2 тыс.

## Дэпутаты хвалююцца

Галоўным спажыўцом секстурызму ў свеце былі і застаюцца немцы. Калі ў 1993 г. колькасць нямецкіх секс-турыстаў перавысіла 300 тыс. чалавек, гэтай праблемай зацікавіліся нават парламентарыі і правялі ў Бундэстагу спецыяльныя слуханні. Сітуацыя не змянілася: у 1996 г. толькі ў краіны Азіі ў пошуках «дадатковых паслугаў» выехала больш за 400 тыс. немцаў, прычым каля 5 тыс. шукалі выключна сексу з непаўналетнімі.

Больш за 30% нямецкіх секстурыстаў — гэта жанатыя мужчыны, а сярод іх — лекары, юрысты, банкіры, навукоўцы. Такую статыстыку падае міністэрства юстыцыі ФРГ. Праблема зноў і зноў выносіцца на абмеркаванне ў Бундэстагу. Нядаўна слуханні ініцыіравала фракцыя «зялёных» — пасля таго, як 43-гадовы немец быў асуджаны ў Тайландзе на 43 гады турмы за згвалтаванне непаўналетніх.

## Без страху

Аднак секс-турысты не баяцца ні хваробаў, ні прысудаў, ні іншай небяспекі, што можа чакаць іх падчас падарожжа. Напрыклад, летась у мясцовасці Патая ў Тайландзе прастытуткі пачалі шырока выкарыстоўваць сродак з назвай *Johny-up 27*, які дзяўчаты падсыпалі кліентам у спіртное. У выніку мужчына засынаў глыбокім сном (часам аж на двое сутак) — а дзяўчына знікала разам з усімі ягонымі грашыма. Для непітушчых кліентаў былі прыдуманы больш вытанчаны спосаб: крэмам *Johny-up 27* прастытуткі мазалі сабе грудзі... Праз пяць хвілін гарачых пацалункаў эфект быў той самы — сон.

Паліцыя Патаі сведчыць, што ў выніку ўжывання гэтага сродку загінулі 49 секс-турыстаў. Гэтыя звесткі шырока паведамляюцца. Колькасць секс-турыстаў толькі расце.

## Летняя прыгода

Сексолагі паведамляюць, што лета ў прынцыпе спрыяе выпадковым сексуальным кантактам. У Польшчы кожны год у летні час эратычных прыгодаў шукаюць амаль 50% мужчынаў і 29% кабет. Для большасці мужчынаў прычынай найчасцей становіцца «спрыяльны выпадак» — напрыклад, выезд у адпачынак без жонкі. 51% палячак і 57% палякаў сцвярджаюць, што не адчуваюць у выпадку сямейнай нявернасці ніякіх згрызотаў сумлення.

На жаль, у Беларусі падобнай статыстыкі няма. Лабараторыя *Modus vivendi* спрабавала правесці падобнае даследаванне ў Мінску. **Толькі 4% рэспандэнтаў ва ўзросце пасля 40 гадоў згадзіліся** ўвогуле адказваць на пытанне. Што гэта значыць: старэйшыя беларусы **не любяць сексу, не ведаюць** або **стыдаюцца**?

Затое больш за 80% апытаных студэнтаў адказалі, што ***эратычныя прыгоды цікавыя для іх у любую пару года***. І для гэтага зусім ***не абавязкова ехаць за мяжу***.

**Віктар ВОЙЦІК**
**Наталля КАЛАСАЕВА**
*з выкарыстаннем матэрыялаў часопісаў Wprost і Spiegel*

## Торг за мемуары Моники

**Сага Моники Левински о ее приключениях с президентом США Биллом Клинтоном может оказаться самым дорогостоящим проектом в истории книгоиздания на тему сексуальных отношений.**

Американский таблоид «Стар» направил Левински предложение, пообещав 1 млн. долларов за эксклюзивные права на ее правдивый рассказ. Однако это предложение тут же было перебито издательством «Харпер Коллинз», которое увеличило ставку до 2 млн. долларов. Левински получала предложения и от других издательств, в частности от таблоида «Нэшнл инкуайрер». Однако главный его редактор, как стало известно, посетовал на то, что практически все «самое интересное» уже просочилось в прессу. Ставки ставками, но Левински пока не откликнулась на предложения.

## Всех переплюнула

**Любому верблюду даст фору 22-летняя студентка Анжела Альмеда в умении плеваться.**

На соревнованиях во французском городке Фрешу выплюнутое этой дамой арбузное семечко пролетело расстояние 7,53 метра, благодаря чему она стала чемпионкой мира. Хотя этот результат гораздо скромнее прошлогоднего рекорда Анжелы (10,46 метра), она намного опередила остальных участников турнира, в том числе мужчин.

## Не зевай – телевизор отключится

**Внимателен, чуток, ловит не только каждое слово, но и выражение лица хозяина...**

Можно подумать, что речь идет о собаке. На деле эти характеристики относятся к компьютеру, разработкой которого заняты сотрудники Массачусетского технологического института.

Группа специалистов уже создала опытную систему, которая при помощи датчиков распознает малейшие изменения на лице человека. Заинтересованность, скука, раздражение — все эмоции немедленно улавливаются машиной. Если такой компьютер присоединить к телевизору, он способен автоматически выключать передачу, как только человек покажет, что она ему неинтересна.

## Не счесть алмазов в Коиду

**Редкий по чистоте и красоте алмаз весом в 100 каратов случайно обнаружили подростки, промышлявшие на приисках, которые расположены вокруг города Коиду, на востоке африканской страны Сьерра-Леоне.**

Сенсационную находку оценили в миллион долларов. Самый большой в истории Сьерра-Леоне алмаз весом в 999 каратов был найден в 1985 году.

Происшествие это можно назвать чрезвычайным только из-за величины и качества алмаза. А вообще-то подобная находка в Коиду отнюдь не редкость. Мальчишки не раз отыскивали вожделенные камешки даже на улицах, в полях и огородах.

Недра и окрестности Коиду в буквальном смысле начинены драгоценными камнями. Открытие их месторождений в 50-е годы привело к притоку старателей в этот, даже по сьерра-леонским меркам, медвежий угол. Благодаря алмазам деревенька Коиду превратилась в населенный пункт с десятками тысяч жителей, ее название появилось на картах.

Нынешняя находка — кристально чистый, без трещин, правильной восьмиугольной формы камень — вызвала у местных ювелиров настоящий фурор. Впрочем, обнаружившим ее подросткам она вряд ли принесет богатство и процветание. Скорее — доставит неприятности.

Перекупщики отказываются брать алмаз, так как власти Сьерра-Леоне запретили торговые операции с драгоценными камнями в районе Коиду. В июле вступило в силу новое законодательство, направленное против контрабандного экспорта алмазов. В соответствии с ним, лица, занимающиеся незаконной добычей и торговлей камнями, приравниваются к мятежникам, отряды которых действуют на востоке республики, и должны понести суровое наказание.

*По материалам зарубежной печати*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1233 Нумар падпісаны ў друк 08/09/98 (15:29) Наклад — 19.730